 

# ПАГОНЯ

Чацвер
26 кастрычніка 2000 г.
№ 40 (487)
Кошт 70 рублёў

## Хочаш быць дэпутатам? Абірайся на перыферыі...

**У панядзелак старшыня аблвыканкама Аляксандр Дубко сустрэўся з абранымі на Гарадзеншчыне ў першым туры выбараў вылучэнцамі ў так званую Палату прадстаўнікоў. Пашанцавала шасці асобам. Усяго ў вобласці 13 выбарчых акруг.**

Як вядома, абраныя старшыня Камітэта дзяржкантролю Марыя Праташчык, начальнік упраўлення аховы здароўя абласнога выканаўчага камітэта Роберт Часнойць, армейскі генерал Валерый Фралоў, дырэктар Шчучынскага лясгасу Уладзімір Семянюк, дзяржаўны службовец Мікалай Дуніч. Жыхары горада Ліды аднадушна аддалі перавагу другому сакратару ЦК БПСМ Міхаілу Ардзе.

Аляксандр Дубко павіншаваў абраных, заклікаў іх трымацца родных каранёў. Старшыня абласнога Савета дэпутатаў Аркадзь Карпуць не пашкадаваў высокіх словаў накont карысці зладжанай працы пасланцоў Гарадзеншчыны.

Шкада, што ніхто з абраных не падзяліўся досведам дасягнутай перамогі. Напрыклад, як удалося выйграць ужо ў першым туры таму ж Міхаілу Ардзе ў Лідскай гарадской выбарчай акрузе №56, дзе балатавалася ажно восем чалавек? Можна пазайздросціць і Уладзіміру Семянюку. Ён адразу паклаў на лапаткі астатніх пацёх канкурэнтаў. Роберт Часнойць не пакінуў ніякіх шанцаў чатыром супернікам у Смаргонскім раёне.

Дарэчы, ніводзін пераможца не вызначыўся ў Гродне. Летась у час выбараў у мясцовыя Саветы тактыку выбараў на перыферыі паспяхова выкарысталі іншыя высокапастаўленыя чыноўнікі абласнога цэнтра. І ніхто не прайграў...

Уладзімір Кавалёў

## Лаба дзенас, калегі

**20 кастрычніка ў будынку Гарадзенскага УУС было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве паміж нашай абласной міліцыяй і літоўскім камісарыятам паліцыі. «Пратакол аб супрацоўніцтве» прадугледжвае план сумесных дзеянняў на працягу 2000-2002 гадоў па барацьбе са злачынствамі.**

З гарадзенскага боку пратакол падпісаў начальнік УУС Анатоль Белашэўскі, а з літоўскага - галоўны камісар Вільні Эрыкас Калячус. На сустрэчы прысутнічалі таксама кіраўнікі прымежных раёнаў службы аховы правапарадку - Варэнскага, Ладзіяйскага, Шальчынінкайскага, Воранаўскага, Астравецкага, Івейскага ды іншых.

Вызначаны і асноўныя накірункі сумеснай працы. Гэта найперш супрацьдзеянне наркадзялкам, барацьба з крымінальным аўтабізнесам, злачынствамі супраць асобы, з ілжэпрадпрымальніцтвам.

Паралельна будзе весціся абмен супрацоўнікамі, досведам і новымі дасягненнямі ў ахове правапарадку.

Іван Паўлёнак

## Вымагальнік у міліцэйскіх пагонах

У мінулы чацвер на Паўднёвым рынку супрацоўнікі КГБ арыштавалі супрацоўніка міліцыі. Участковы інспектар браў у гандляра хабар - магнітолу за 22 тысячы рублёў.

Паводле словаў гандляроў рынку, гэты міліцыянт даўно меў рэпутацыю вымагальніка. У сваёй «працы» ён карыстаўся немудрагелістымі метадамі, таму ў народзе яго празвалі «пластмасавай галавой».

Зараз хабарнікам займаецца гарадзенская пракуратура.

Юлія Дарашкевіч




**26, 27 кастрычніка** - воблачна, з праясненнямі, месцамі - ападкі, вецер усходні, 2-5 м/с. Тэмпература паветра **26, 27 кастрычніка** - уначы +2...+6, удзень +14...+16.

# Беларускія сцягі на магіле Віктара Каліноўскага



**У нядзелю раніцай, 22 кастрычніка, тры аўтобусы гарадзенцаў, пераважна моладзь, скіраваліся з цэнтра Гродна на Свіслаччыну. У мясціны, якія далі жыццё героям Беларусі братам Каліноўскім і сталі месцам апошняга спачыну старэйшага з іх - Віктара Каліноўскага. Як ужо становіцца звычайным, кожны год, напрыканцы кастрычніка ў Свіслач з'язджаюцца ўсе ахвотныя аддаць даніну павагі беларускім героям.**

Чатыры гады таму свіслачанін Віктар Трышчановіч, шукаючы магілы сваіх продкаў, натрапіў на занядбаную магілу Віктара Каліноўскага. Разам з сябрамі з Грамады яму ўдалося яе аднавіць, усталяваць крыж і паставіць перад сабою мэту - 25 кастрычніка, Дзень смерці Віктара Каліноўскага, павінен стаць Днём памяці палеглых герояў у вызвольным паўстанні 1863 года. Штогод, спачатку гарадзенцы, а пазней ужо і лідчукі, менчукі ды іншыя сталі прыязджаць на ўрачыстасці, якія з гэтага года маюць назву «Усебеларускі фэст памяці герояў паўстання 1863-1864 гадоў».

«Мы запрашалі ў Свіслач усіх, нават уладу. Мы не маем права прыватызаваць герояў, гэта героі не Фронту, Грамады ці Ратушы, гэта героі ўсіх, нават камуністаў - таму мы наладзілі фэст», - патлумачыў назву Віктар Трышчановіч.

Напачатку мерапрыемства арганізатарам давялося нечакана змяняць планы. У царкве, ля якой знаходзіцца магіла Каліноўскага, ішло набажэнства і мясцовыя бабулькі адмоўна паставіліся да вялікай колькасці людзей з бел-чырвона-белымі сцягамі. І каб не выклікаць непаразуменні і стычкі, маршрут урачыстага шэсця быў зменены.

Аднак невялікая група моладзі, узяўшы сцяг, усё ж скіравалася ў бок магілы. Свой акт яны патлумачылі тым, «колькі можна баяцца хадзіць на магілы сваіх герояў». І калі хлопцы, схіліўшы галовы, паклалі бел-чырвона-белы сцяг на магілу Каліноўскага, змоўклі нават ваяўнічыя бабулькі.

У Свіслачы ўдзельнікі фэсту ўсклалі кветкі ля помнікаў Кастусю Каліноўскаму, Рамуальду Траўгуту. Прамаўлялі Віктар Трышчановіч, сябры Грамады Уладзімір Хільмановіч, Зміцер Кісель, прафесар Аляксей Пяткевіч.

Пасля ўсе скіраваліся ў Якушоўку, дзе на месцы былога маёнтка Каліноўскіх стаіць велізарны крыж у гонар паўстанцаў. Тут словы мелі Сямён Домаш і айцец Ян Спасюк.

Закончыўся фэст традыцыйным бардаўскім канцэртам Віктара Шалкевіча, Зміцера Бартосіка, Андрэя Мельнікава, нямецкага спевака Дытара Калькі.

Павал Мажэйка

**На здымку: Якушоўка. Удзельнікі фэсту ля Крыжа ў гонар Герояў**

# Атрутны водар залатой восені над Гароднян

**Чым пахне Гародня? У кастрычніку яна пахне паленым лісцем. Толькі за суботу і нядзелю гарадзенскія пажарнікі вымушаны былі 11 разоў выязджаць на тушэнне сухога лісця. Водар затрымаўшайся сёлета залатой восені - рэч досыць небясьпечная. Людзі ўцягваюць носам дым ад шматлікіх вогнішчаў з каштанавых, кляновых, асінавых ды іншых лістоў. Разам з дымам у лёгкія трапляе шэраг шкодных хімічных элементаў. У іх ліку, напрыклад, канцэраген бензпірэн, які выклікае ракавыя захворваньні.**

Як паведаміў загадчык аддзелу па ахове атмасфэрнага паветра абласнога камітэту прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Барыс Падольны, апалае лісьце мусіць вывозіцца за горад, нягледзячы на адгаворкі ЖЭСаў пра адсутнасьць сродкаў на бэнзін. Як варыянт, лісьце можа закопвацца ў зямлю, але ні ў якім выпадку не спальвацца.

Справа ў тым, што Гародня - самы аўтамабілізаваны на тысячу жыхароў горад Беларусі. А аўтамабілі называюць «хімічнымі фабрыкамі на колах», бо яны выкідваюць у паветра больш за 200 хімічных рэчываў. Зь іх толькі два элементы колькасна кантралююцца - вокіс вугляроду (CO) і сума вуглевадародаў (CH). Усе гэтыя шкодныя рэчывы за лета назапашваюцца лісьцем, пры спальваньні якога атрута трапляе ў паветра, а затым і ў нашыя лёгкія.

Артыкул 36 Закона РБ «Аб ахове атмасфэрнага паветра» забараняе спальваньне вытворчых, бытавых ды іншых адходаў на тэрыторыі прадпрыемстваў, установаў, арганізацыяў і населеных пунктаў. Гэта азначае, што калі на сваіх лецішчах мы можам рабіць вогнішчы, то ў межах гораду паліць сьмецце, лісьце ці нешта іншае - гэта злачынства. За якое, між іншым, можна і штраф атрымаць - да пяці «мінімалак» проста грамадзянам, і да 50 - службовым асобам.

Дарэчы, на Захадзе ўжо існуюць навуковыя працы, у якіх напісана, якія расьліны лепш высаджваць уздоўж дарогаў, каб бясьпечней для экалогіі было. А ў Гародні пакуль палаюць вогнішчы - ва дварах, ля школаў і дзіцячых садкоў.

Калі Вы хочаце абараніць сябе і сваіх дзяцей ад атрутнага дыму, паведамляйце пра месцы, дзе спальваецца лісьце ў гарадскую інспэкцыю прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя па тэлефонах: 44-95-78, 72-25-08.

Юлія Дарашкевіч, Вольга Астроўская

## Генадзь Бураўкін сустрэнецца з гарадзенцамі

**Сёння а 14-й гадзіне ў актавай зале пятага корпусу Гарадзенскага універсітэта імя Янкі Купалы распачынаецца творчая сустрэча Лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, паэта Генадзя Бураўкіна з гарадзенцамі.**

Адрас імпрэзы - вуліца Леніна,32. Запрашаюцца усе ахвотныя, уваход свабодны.

Ул. інф.

## У Каложы пачуюць голас Геніюш

**«Хрысціянскі шлях паэткі» - такую назву маюць урачыстасці, прысвечаныя 90-годдзю Ларысы Геніюш, што пачнуцца ў нядзелю, 29 кастрычніка, у Каложскай царкве. Пачатак мерапрыемства, арганізаванага Беларускім моладзевым праваслаўным брацтвам, прызначаны на 12 гадзін.**

У праграме - уступнае слова святара айца Аляксандра, вершы Ларысы Геніюш, лірычныя творы хора «Бацькаўшчына». Цікавай і захапляльнай падзеяй абяцае стаць выкананне гарадзенскімі студэнтамі паэмы «Даўніна», якую Ларыса Геніюш прысвяціла Еўфрасінні Полацкай.

Арганізатары запрашаюць на ўрачыстасці ўсіх ахвотных.

Павал Мажэйка

## Мастацтва з Лідскай глыбінкі

**Сёння ў 12.00 у Абласным метадычным цэнтры народнай творчасці адкрылася унікальная выстава.**

Галоўны спецыяліст цэнтра па выяўленчаму і дэкаратыўна-прыкладному мастацтву Алена Храмкова называе выставу унікальнай з той прычыны, што ўпершыню выстаўляюцца творы самадзейных мастакоў з вёсак, а не, як звычайна, з гарадоў ці райцэнтраў.

Свой творчы дэбют у Гродне будуць адзначаць мастакі з вёсак Лідскага раёна Тадэвуш Вінча, Сямён Жыдко, Яўген Новікаў, Уладзімір Марцінкевіч. Выстава арганізаваная пры ўдзеле супрацоўніцы Лідскага раённага метадычнага цэнтра Валянціны Цыганец.

Алена Сіневіч

# Пажары сталі звычайнай з'явай

**Гарадзенскае абласное ўпраўленне Міністэрства надзвычайных справаў абвесціла правядзенне з 1 па 30 лістапада абласнога месячніка пажарнай бяспекі. Гэтая мера выклікана значным ростам колькасці пажараў, што адбываюцца па віне грамадзянаў.**

Паводле словаў Іны Матусевіч, інспектара пажарнай службы Ленінскага раёна, за дзевяць месяцаў бягучага года ў вобласці здарылася 1093 пажары, загінула 70 чалавек, сярод іх і дзіця. Самая распаўсюджаная прычына пажараў - неасцярожнасць у абыходжанні з агнём.

Падчас месячніка плануецца выданне адмысловай радыёгазеты і шэрагу тэлеперадачаў на супрацьпажарную тэматыку. Супрацоўнікі пажарнай службы будуць выступаць з лекцыямі ў школах, ужо распрацаваныя ўзоры агітацыйных плакатаў.

У Цэнтры пажарнай бяспекі па завулку Дзяржынскага,15 штодзень працуе музей, дзе можна даведацца пра гісторыю пажарнай службы, паглядзець тэхнічныя сродкі, з якімі працуюць пажарныя.

Павал Мажэйка

 




# Сойм БНФ шукае будучага прэзыдэнта!

**21 кастрычніка адбыўся чарговы Сойм БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ. Асноўнай тэмай Сойму стала падсумаваньне станоўчых вынікаў восеньскіх акцыяў «Байкот-2000» і арганізацыйныя высновы зь іх. З дакладамі выступілі старшыня БНФ Вінцук Вячорка, намесьнік старшыні В.Івашкевіч, а таксама рэгіянальныя лідары.**

Лідар Партыі Вінцук Вячорка ахарактарызаваў асноўныя дасягненьні, зробленыя намаганьнямі аб'яднанай апазыцыі. Было адзначана, што відавочная перамога абранай стратэгіі адбылася дзякуючы зладжанай працы Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў, якая на сёньня зьяўляецца рэальным цэнтрам апазыцыі. Асаблівую ўвагу спадар Вячорка надаў дзейнасьці апазыцыйных сілаў на месцах, адзначыўшы, што сёлетні восеньскі ўздым дэмакратычнага руху стаў агульнабеларускім. «Дзякуючы намаганьням рэгіянальных камандаў, акцыі адбыліся амаль усюды, дзе былі заплянаваныя, менавіта актыўнасьць рэгіёнаў паказала рэжыму, а таксама ўсёй міжнароднай супольнасьці рэальную сілу, якой з'яўляецца апазыцыйны рух у Беларусі», - заявіў Вінцук Вячорка.

Сябры Сойму віталі стаўленьне міжнароднай супольнасьці да вынікаў выбараў, прызнаных недэмакратычнымі і несвабоднымі. Адзін з прыярытэтаў у далейшай працы быў нададзены зьнешнепалітычнай дзейнасьці. Да канца кастрычніка будзе доўжыцца збор подпісаў за правядзеньне дэмакратычных прэзыдэнцкіх выбараў, што зараз мае істотнае значэньне. Было вырашана правесьці 4 лістапада Соймавую канфэрэнцыю, на якой мяркуецца ўхваліць крытэрыі падбору кандыдата ў прэзыдэнты ад аб'яднанай апазыцыі, а таксама плян яго вылучэньня, прымальныя для БНФ «Адраджэньне». Адзначана, што далейшая праца дзеля свабоды й незалежнасьці Беларусі патрабуе большай арганізацыі, наладжваньня больш трывалых кантактаў з рэгіёнамі, супрацоўніцтва паміж палітычнымі партыямі й грамадзкімі аб'яднаньнямі, ня толькі сталічнымі, але і рэгіянальнымі. Перамога, якую атрымала стратэгія апазыцыйных сілаў на выбарах 15 кастрычніка, павінна стаць агульнавядомай у Беларусі і за яе межамі. З гэтай нагоды быў прыняты Зварот Сойму БНФ «Адраджэньне» да беларускага народу й міжнароднай супольнасьці.

**Ул. інф.**

## Зварот Сойму БНФ «Адраджэньне» да беларускага народу й міжнароднай супольнасьці

15 кастрычніка 2000 году апошні дыктатар Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы зрабіў спробу ўзаконіць вынікі дзяржаўнага перавароту 1996 году праз выбары ў гэтак званую «палату прадстаўнікоў». БНФ «Адраджэньне» разам з усімі арганізацыямі, што ўваходзяць у Каардынацыйную раду дэмакратычных сілаў, заклікаў людзей да байкоту выбарчага фарсу. У выніку беларускі народ падтрымаў нас, масава не прыйшоў на псэўдавыбары, а прамаскоўскі рэжым пацярпеў сакрушальную паразу. Нягледзячы на пагрозы, прымус і прапагандовую хлусьню, рэальная яўка на гэтак званыя «выбары» па краіне склала менш за 45 адсоткаў, а ў гарадох - каля 30. Гэтага факту ўлады не здолелі схаваць нават шляхам шырокамаштабных адкрытых фальсыфікацыяў. Кампанія «Байкот-2000» скончылася нашай агульнай перамогай.

Вялікая падзяка ўсім, хто мужна даносіў да людзей слова праўды праз улёткі, пікеты, наладжваньне масавых акцыяў у гарадох краіны. Засьведчылі грамадзянскую адказнасьць усе грамадзяне, што не паддаліся на ўціск і пагрозы ўладаў ды не пайшлі на выбарчы спэктакаль. Асобнае слова павагі адрасуем тым сябрам выбарчых камісыяў, што не спалохаліся ціску й магчымых рэпрэсыяў ды не пагадзіліся фальсыфікаваць вынікі «выбараў». Вялікую ролю адыграла тая незалежная прэса, што не падыгрывала рэжыму, а аб'ектыўна інфармавала чытачоў пра кампанію «Байкот-2000». У Беларусі пачынае фармавацца дзеяздольная дэмакратычная грамадзянская супольнасьць.

Надыходзіць час падрыхтоўкі да 2001 году - паваротнага ў найноўшай беларускай гісторыі, калі дзеля ўратаваньня незалежнасьці Бацькаўшчыны дыктатура мусіць сысьці: шляхам прэзыдэнцкіх выбараў альбо іншым чынам. Мы запрашаем да кааліцыйнага супрацоўніцтва ўсіх незалежнікаў і дэмакратаў, у тым ліку й тых, хто паспрабаваў удзельнічаць у фарсе, але атрымаў заканамерную й плянаваную рэжымам паразу. Але палітыкі, якія ўпарцяцца ў памкненьні легітымізаваць «палатку» сваім удзелам у бясконцых, як цяпер відаць, давыбарах у яе, не зьяўляюцца нашымі саюзьнікамі й ня могуць разглядацца як удзельнікі дэмакратычный кааліцыі. Мы выказваем слова ўхвалы міжнароднай супольнасьці, урадам эўрапэйскіх краінаў, ЗША й Канады, міжнародным арганізацыям, якія не прызналі фарсу 15 кастрычніка за свабодныя й справядлівыя выбары. Тым самым міжнародная дэмакратычная супольнасьць дала нам, беларускай дэмакратычнай апазыцыі, шанец не дапусьціць легітымізацыі рэжыму й пераняць палітычную ініцыятыву. Заклікаем усіх, каму дарагія ідэалы дэмакратыі ды хто разважліва думае пра стабільнасьць у Цэнтральна-Ўсходняй Эўропе, працягваць ізаляцыю рэжыму Лукашэнкі, прызнаваць толькі легітымны Вярхоўны Савет і не надаваць ніякага міжнароднага прызнаньня незаконна заключаным ад імя беларускага народу саюзным пагадненьням з Расеяй.

**21 кастрычніка 2000 году**

# Заява каардынацыйнага камітэта «Гродзенская ініцыятыва»

Паводле афіцыйных дадзеных, выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу 15 кастрычніка адбыліся ва ўсіх 13 акругах Гарадзенскай вобласці, а ўдзел у выбарах прыняло каля 68 працэнтаў выбаршчыкаў. Гэта самы высокі паказчык па краіне, чаго не было на Гарадзеншчыне на папярэдніх выбарах.

Гарадзенскія праваабарончыя і грамадскія арганізацыі, якія ўваходзяць у склад Каардынацыйнага камітэта «Гродзенская ініцыятыва», кантралявалі выбарчы працэс на ўсіх яго этапах праз нагляданне на выбарчых участках, паралельны падлік галасоў, збор дадзеных з афіцыйных і незалежных крыніцаў інфармацыі. Было складзена больш за 200 актаў і заяваў аб парушэннях. Аналіз гэтых дадзеных паказвае, што афіцыйна прадстаўленыя вынікі галасавання атрыманыя за кошт шматлікіх грубейшых парушэнняў выканаўчай уладай, выбарчымі камісіямі, адміністрацыямі прадпрыемстваў і ўстановаў дзеючага заканадаўства краіны, у тым ліку і Выбарчага Кодэкса. Ніколі яшчэ «вертыкаль» на Гарадзеншчыне не працавала так інтэнсіўна і з такой колькасцю парушэнняў законаў. Галоўным спосабам забяспечыць 50-працэнтную яўку выбаршчыкаў было парушэнне права гарадзенцаў на свабоду ўдзелу ў выбарах. Паводле загаду з аблвыканкама, адміністрацыі прадпрыемстваў і ўстановаў вобласці ўсіх узроўняў шляхам пагрозаў, шантажу і запалохвання прымушалі сваіх падначаленых ісці на ўчасткі для галасавання. Найбольш моцнаму ўціску падвергліся жыхары інтэрнатаў і студэнты. У парушэнне Выбарчага Кодэкса, участковыя камісіі перадавалі звесткі аб прозвішчах непрагаласаваўшых кіраўніцтвам прадпрыемстваў, навучальных установаў, камендантам інтэрнатаў, якія персанальна прымушалі людзей ісці галасаваць. Такім прымусам была дасягнута 19-працэнтная яўка выбаршчыкаў на выбарчыя ўчасткі па гораду Гродна яшчэ да 15-га кастрычніка.

У парушэнне Выбарчага Кодэкса, створаныя раённымі адміністрацыямі ўчастковыя выбарчыя камісіі ў большасці сваёй складаліся з супрацоўнікаў аднаго прадпрыемства ці ўстановы, а старшынёй камісіі абіраўся прадстаўнік адміністрацыі гэтага прадпрыемства, непасрэдны кіраўнік сябраў камісіі на працы. Такім чынам, была створана цалкам падкантрольная «вертыкалі» сістэма правядзення праз выбары ў палату неабходных людзей. Участковыя камісіі на выбарчых участках, у парушэнне Выбарчага Кодэкса, стваралі перашкоды наглядальнікам выконваць свае абавязкі: абмяжоўвалі магчымасць назіраць за сталамі для выдачы бюлетэняў і выбарчымі скрынямі; адмаўляліся даваць інфармацыю пра ход працэсу галасавання, колькасць атрыманых бюлетэняў, колькасць датэрмінова прагаласаваўшых ды іншае; забаранялі наглядальнікам непасрэдна назіраць за працэсам падліку галасоў; адмаўляліся прымаць і рэгістраваць заявы ад назіральнікаў наконт выяўленых парушэнняў Выбарчага Кодэкса. Прадстаўнікі выканаўчай улады непасрэдна і па тэлефоне кіравалі дзейнасцю ўчастковых выбарчых камісіяў у час галасавання.

Гэтыя дзеянні стварылі ўмовы для фальсіфікацыі вынікаў выбараў як па колькасці тых, хто прыняў удзел у галасаванні, так і па выніках галасавання за таго ці іншага кандыдата. У выніку, як і папярэджвалі гарадзенскія дэмакратычныя арганізацыі, якія байкатавалі выбары, улада зрабіла тыя вынікі, якія ёй былі патрэбныя. Пацверджаннем гэтаму з'яўляецца і тое, што «вертыкаль» правяла абранне ўсіх тых кандыдатураў, якія былі запланаваныя ёю яшчэ задоўга да выбараў. Мы, кіраўнікі дэмакратычных палітычных і грамадскіх арганізацыяў горада Гродна, заяўляем, што праведзеныя гарадзенскімі ўладамі «выбары» з'яўляюцца спектаклем з заранёў размеркаванымі ролямі, спланаванымі вынікамі, дзе выбаршчыкі апынуліся ў ролі безгалосых выканаўцаў.

Такім чынам, існуючым рэжымам ствараецца паслухмяны орган, у якога толькі адна функцыя - легітымізацыя і захаванне ўлады Лукашэнкі. Для грамадзянаў Беларусі гэта азначае яшчэ большае збядненне, рост коштаў, беззаконне і бесперспектыўнасць жыцця.

**19.10.2000 г.**
**г.Гродна**

# «Воры в законе», што ў перакладзе з рускай мовы гучыць як «Палатка законатворцаў»

*«Каб нацыя стала свабоднай,*
*Ёй варта толькі захацець гэтага».*
**Лафайет (1789 г.)**

**Памятаеце, пры развітанні з «незаменнымі» палатнікамі А.Р. гаворыць астатнім пра іх незаменнасць і запэўнівае (?!) тых у перавыбарах у новую палатку. (Ат, ніякая яна не новая - старая). А тым, хто здуру не патрапіць у яе, ён гаворыць: «Живите честно - чужого не берите» (?!). Я гэта так разумею, што ў палатцы яны кралі? («Брать чужое» - гэта красці). З чаго гэта законатворцаў «наставляет на путь истинный» чалавек, які сам павінен ім падпарадкоўвацца? Бо прэзідэнт як ні круці - выканаўчая ўлада, і ён сам павінен трымаць адказ перад палаткай - ці чэсна жыў і ці не браў чужога.**

Ведае штосьці пра іх, у такім выпадку, А.Р., што нам з вамі ведаць не патрэбна. (Вось гэта «чужого не берите»). А як жа! Чатыры гады таму выканаўчая ўлада купіла законатворчую з вантробамі, калі прызначыла палатку кантраляваць...сябе. Абсурд! Так, але не поўны. Поўны абсурд надышоў тады, калі выканаўчая ўлада (прэзідэнт) падмяла пад сябе і судовую ўладу. Глядзіце: выступае Васілевіч (сакратар Канстытуцыйнага суда) і выказвае падзяку прэзідэнту (выканаўчая ўлада) за вялікую падтрымку і дапамогу ў судовай сістэме ў краіне. Якую падтрымку? Што яны там у судзе, паспіваліся, ці што? Ён жа (суд), на маю думку, павінен быць незалежным, асабліва ад выканаўчай улады. Але ж які там незалежны, калі час ад часу (у залежнасці ад інтарэсаў) прэзідэнт бярэ «пад свой кантроль» тое ці іншае рашэнне «незалежнага» суда і выносіць свой прысуд. (Памятаеце, што прэзідэнт гаворыць пра аднаго з палітыкаў у апале? Маўляў, «па закону ён павінен сядзець шэсць гадоў, а мы яго выпусцілі»). Зараз, я думаю, мой чытач, ты здагадаўся, чаму наша дрэва ўлады мае толькі адну галіну, ды й тая паўсухая і з адным лістом. Такое дрэва не жыццядзейнае, таму ў краіне хаос і крадзеж чужога, асабліва на месцах. Так і атрымліваецца, што палатка ў нас - «хозяина»; а пра тое, што ў палатцы крадуць, «хозяин» даў зразумець. І ў гэтай палатцы, як у той турме, трэба, бадай што, вешаць лозунг «На свободу с чистой совестью». Памятаеце - «не кради»? Значыць, хто не можа з чыстым сумленнем - гайда тады ў палатку! Прыйшлі і засталіся. З 40 «абраных» ажно 22 - былыя палатнікі (гэта яшчэ першы тур). Вось і думаю я: дзе ж логіка? А логіка акурат у абсурдзе. Таму зноў «абраным» першапалатнікам прапаную прышпіліць да штрыфеляў пінжакоў па два значкі. А калі яны дойдуць так (падпарадкоўваючыся абсурду) да палаты N6 - лічыць гэта за вялікі «абсурд» і ўзнагародзіць такіх палатнікаў ордэнамі «Абсурд» усіх 6-ці ступеняў за выключнае дасягненне імі палаты N6 з пажыццёвым утрыманнем у гэтай палаце без выхаду ў людзі. За асаблівыя «заслугі» можна ў той жа 6-й палаце паставіць бюст героя. Асабліва «ганаровым» дазволіць браць прозвішчы праваадыроў (таго ж Напалеона).

А зараз крыху пра тых апазіцыянераў, у каго не вытрывалі нервы, хто зрабіў фальстарт і ўвязаўся ў гонку за месца ў палатцы. Дарэчы, у гэтай гонцы ім адразу далі зразумець: чужыя тут «пралятаюць». Правільна гаварыў А.Р. перад выбарамі: «Куда они лезут? Там сильные игроки». У тым і справа. Прасцей кажучы, там гульня без правілаў. А калі зусім сур'ёзна - якая там гульня, калі «сильные игроки» гуляюць у падкіднога дурня, якога беларусы падкінулі самі сабе не так даўно.

Канешне, калі вельмі карціць, дык і ў гэтых умовах можна знайсці шлях у палатку. Пахваліць уладу, напрыклад, альбо паздзекавацца з апазіцыі, як той Навасяд. Так падкалупнуць апазіцыю, у якой, дарэчы, сам нядаўна ашываўся, гэта трэба ўмець! (Што робіць з людзьмі пагарда і фанабэрыя!) У суботняй «Панараме» ён з годнасцю, што заслугоўвае лепшага скарыстання, кпіў з апазіцыі, маўляў: «самі пішуць - самі і чытаюць». Канешне, самі! Хто ж яшчэ, апрача зняволенага, будзе чытаць у турме пра цяжкае жыццё ў няволі? (Усе мы зараз і знаходзімся - хто ў палітычным, хто ў эканамічным, хто ў маральным, хто ў прамым сэнсе - у зняволенні). Хіба пра гэта будуць чытаць «наглядчыкі» ды іх прыхвасні? Ды лепей пісаць самім, чым самім вылучацца, выбіраць, і самім для сябе быць абраным у палатку. А потым хтосьці за вас будзе пісаць указы, дарэчы, таксама для сябе, але без вас. Ведаеце, каго я маю на ўвазе, «товарищи» навасяды? Яго! Сапраўднага Апазіцыянера з вялікай літары. Крыўдна, праўда, што ў апазіцыі ён...да свайго народа. Не ведаю - чаму, але, у адрозненне ад вас, я яму веру, веру ў яго шчырае памкненне давесці распачатую ім справу да канца...у сэнсе катастрофы. Сваёй ці Беларусі - гэта ўжо іншая справа.

**З прывітаннем,**
**Палат Абсурдаў,**
**грамадзянін РБ**

**P.S. Калі будзеце галасаваць 29 кастрычніка, памятайце: вы галасуеце за Расею. А што хоча ад вас пуцінская «прагматычная» Расея? Бясплатны транзіт газу, нафты і ўсяго іншага, што можна збагрыць Захаду. Бясплатныя вайсковыя базы, радыёлакацыйныя станцыі. А гэта ўсё будучыя экалагічныя катастрофы. Нам мала аднаго Чарнобыля? А вось Расея збіраецца абараняцца. З выказвання дэпутата Дзярждумы спадара Рагозіна, сакратара Кангрэса Расейскіх абшчынаў: «У нас будет только два союзника - армия и флот». Як бачыце, пра Беларусь тут нічога няма. Далей: «Главное (у аб'яднанні) для России в том, что войска NATO никогда не будут стоять под Смоленском». Заўважце: пра Беларусь тут ані слова. Таму не галасуйце за Расею, каб не было позна. Бо тады ўжо мы з вамі на сваёй скуры выпрабуем прымаўку «Москва слезам не верит». І памятайце: альбо мы будзем мачыцца ў беларускай прыбіральні, альбо нас будуць «мочить в русском сортире». «Однозначно»!**

# Як пенсіянера Піваварчыка дзяржава «абула» на курсе Нацбанка

**Гісторыя гэтай спрэчкі пенсіянера Генрыха Піваварчыка з беларускай дзяржавай цягнецца з сярэдзіны 1996 года. Такая працягласць толькі падкрэслівае ўвесь абсурд справы.**

Сутнасць яе вось у чым. Дзевятага траўня 96-га спадар Піваварчык выехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі паводле запрашэння Міжнароднага Чырвонага Крыжа для ўдзелу ў перазахаванні ў горадзе Брыджпарт (штат Пенсільванія) парэштказ свайго дзядзькі з усімі належнымі вайсковымі ўшанаваннямі ветэрана вайны. Перад ад'ездам у яго ўзнікла праблема з беларускай мытняй у аэрапорце «Менск-2». Мытныя правілы дазвалялі вывозіць 500 даляраў, а Піваварчык меў яшчэ дадатковых 640 «баксаў». Мытнікі паведамілі яму, што гэтыя грошы ён можа пакласці на рахунак мытні, якая гарантуе іх поўнае вяртанне пасля прыезду з Амерыкі. Пры такіх умовах спадар Генрых са спакойнай (ці не вельмі, але што зробіш) душою перадаў грошы на захаванне мытні, атрымаў квіток і адбыў у Штаты.

Паколькі ў Амерыцы цэлы клан ягоных сваякоў, Генрых, маючы візу на шэсць месяцаў, вярнуўся дахаты толькі ў снежні. У той жа мытні «Менск-2» спадару Піваварчыку паведамілі, што ягоныя грошы даўно зніклі ў агульным дзяржаўным катле, і прапанавалі атрымаць іх у рублях па курсу, які дзейнічаў на момант перадачы на захаванне дзяржаве (па 15 000 рублёў за даляр). Але Піваварчык не пагадзіўся з такой пастаноўкай пытання і напісаў у пракуратуру краіны. Адтуль прыйшоў адказ намесніка пракурора М.Снегіра, маўляў, грошы сканфіскаваныя правільна, бо ёсць такі загад старшыні мытнага камітэта ад 7сакавіка 1997 года, каб вяртаць ў рублях і па смешнаму курсу. (Трэба адзначыць, што беларускі грамадзянскі Кодэкс разумее юрыдычны змест дамовы захавання зусім інакш, а менавіта: захавальнік нясе поўную адказнасць за захаванне перададзенай яму маёмасці. Але пра гэта М.Снегір спадару Піваварчыку не паведаміў).

Генрых Вацлававіч Піваварчык не пагадзіўся з пракурорам і напісаў міністру юстыцыі, у якога запытаў: ці можа дзейнічаць загад галоўнага мытніка адносна дзеянняў, якія былі зробленыя да выдання загаду. Спачатку Міністэрства юстыцыі культурна «бартанула» Піваварчыка - адказала, што не тлумачыць мытнае заканадаўства грамадзянскім асобам. Але спадар Генрых зноў напісаў міністру, заявіў, што ён не патрабуе ніякіх тлумачэнняў мытнага заканадаўства, а толькі прапануе адказаць канкрэтна: «Распаўсюджвае загад мытні ад 97-га года сваё дзеянне на падзеі года 96-га ці не?» І тады першы намеснік міністра юстыцыі В.Галаванаў адказаў, што нормы гэтага загаду не могуць мець дачынення «да праваадносінаў, якія ўзніклі ў 1996 годзе».

Як можа ўпэўніцца чытач, Генрых Піваварчык - чалавек настойлівы. Сёння ён збіраецца звярнуцца ў суд і спагнаць грошы ў прымусовым парадку. Без сумнева, Праўда (дый нават беларускі Закон) на ягоным баку. Гісторыя гэтая паказвае, што наша дзяржава не лічыцца з правамі чалавека на прыватную ўласнасць і не саромеецца абдзіраць нават пенсіянераў самым нахабным чынам. «Я прывёз з Амерыкі пашпарт дзядзькі, выдадзены яму царскімі ўладамі пры выездзе ў 1913 годзе, - расказвае Генрых Вацлававіч. - У пашпарце пададзеныя вытрымкі з тамтэйшых мытных правілаў. Дык вось, падданы імператара мог вывезці з Расеі тады да кілаграма залатых вырабаў, пуд срэбра, а ўсяго астатняга - паводле патрэбы».

У чым мараль? Можа, у тым, што той цар быў крыху прыстойнейшым?

**Сяргей Самасей**

# Залаты кастрычнік 2000-га

**Сёлета прырода зрабіла нам сюрпрыз. Надвор'е выдалася надзвычай сонечным. Наперадзе - лістапад, і нас яшчэ чакаюць холад і дождж, але ўжо зараз можна сказаць, што восень атрымалася насамрэч залатой.**

Да 25 кастрычніка на працягу трох дэкадаў (34 дні) у нас фактычна не было дажджу. Для вяскоўцаў гэта проста сапраўдны падарунак на ўборку бульбы і буракоў. Не трэба корпацца ў балоце і праз кожныя паўгадзіны кідаць працу ды бегчы хавацца ад дажджу ў бліжэйшы арэшнік.

А вось увесну мы яшчэ можам узгадаць гэты кастрычнік нядобрым словам. У пачатку месяца сеялі азімыя культуры, а для развіцця зерня неабходна вільгаць.

З такім незвычайным надвор'ем звязана й бадай самая паэтычная з'ява прыроды - лістапад. Дрэвы змянілі афарбоўку і стракацяць жоўтымі, чырвонымі да карычневымі плямамі сёлета даўжэй, чым звычайна.

Таму і лістапад атрымаўся познім. Прычына гэтага - вельмі цёплае надвор'е. У гэтым годзе ў асобныя дні тэрмометры паказвалі 20-23 градусы. За апошнія дзесяцігоддзі такія цёплыя кастрычнікі назіраліся толькі ў 1995-1996 гадах. Сярэднямесячная тэмпература тады была на 1-2 градусы па Цэльсію вышэй за норму, якая складае 5-8 градусаў.

Звязваюць такія змены ў прыродзе з глабальным пацяпленнем клімату ў выніку гаспадарчай дзейнасці чалавека. За апошнія 100 гадоў сярэднегадавая тэмпература ў свеце падвысілася на 1,5 градуса. Гэта, як сцвярджаюць спецыялісты, вельмі шмат.

**Алеся Сідлярэвіч**

# Салдат у пінжаку і гальштуку

**У мінулы чацвер Гародню наведаў лідар незарэгістраванай Беларускай партыі Свабоды Сяржук Высоцкі. Ён завітаў на паседжанне Маладога Фронту, дзе ў кампаніі найбольш радыкальна настроенай апазіцыйнай моладзі правёў дзьве гадзіны.**

Спадар Высоцкі выказаў занепакоенасць тым, што Гародня стала кузьняй кадраў для «Русского национального единства». Маўляў, у Менску і Гомлі РНЕшнікамі кіруюць гарадзенцы.

Гутарылі таксама пра палітычную сітуацыю ў краіне. Спадар Высоцкі даводзіў, што Беларусі сёньня неабходна радыкальная апазіцыя, і не ў форме хлопчыкаў для біцьця. «Нам мала ахоўваць лідараў апазіцыі ці езьдзіць у лес трэніравацца, - казаў лідар БПС. - Мы палітычная партыя, якая ўдзельнічала ў выбарах, і мы вучым людзей найперш быць духоўнымі змагарамі».

Адпаведна словам Сяржука Высоцкага, БПС налічвае сёньня некалькі соцень маладых людзей, пераважна студэнцкага ўзросту, якія кіруюцца нацыянальна-вызвольнай ідэяй. Партыя не атрымала ніводнага замежнага гранта - існуе на сяброўскія складкі і ахвяраваньні беларускіх бізнэсоўцаў. Бэпээсаўцы не баявікі, праста вымушаныя гартаваць мускулы, каб умець абараніць і краіну, і дзяўчыну на дэманстрацыі, і старога на вуліцы. Спадар Высоцкі, напрыклад, ніколі не насіў камуфляж ці берцы, бо лічыць, што салдатам можна быць нават у пінжаку й гальштуку.

«Я шакіраваны той цеплынёй, зь якой мяне сустрэлі ў Гародні, - падзяліўся ўражаньнямі спадар Высоцкі напрыканцы сустрэчы. - Відавочна, што за апошнія тры гады тут вырасла новая кагорта маладых людзей, больш рашучых і валявых».

**Юлія Дарашкевіч**

# Ці стане Гродна турысцкай Мекай?

**Ці верыцца вам, што адным са значных артыкулаў даходу гарадскога бюджэту Гродна можа стаць турызм? Загадчыца Лабараторыі рэгіянальнай культуры ГрДзУ, кандыдат гістарычных навук Святлана Куль-Сяльверстава ў гэтым абсалютна ўпэўненая. Гродна і яго наваколле ўяўляюць, лічыць яна, не меншы інтарэс для турыстаў, чым іншы еўрапейскі старажытны горад, які папаўняе свой бюджэт за кошт цікаўных іншаземцаў.**

Гарадзеншчына даволі падрабязна вывучаная гісторыкамі. За апошнія сем гадоў адбылося не меней за 20 канферэнцыяў, прысвечаных асобным мясцінам з багатым гістарычным мінулым. Па кожнай з іх сабраныя матэрыялы, якіх болей чым дастаткова для распрацоўкі турыстычных маршрутаў. А чаго каштуе адзін Аўгустоўскі канал! Гэта і скарбніца унікальных гістарычных звестак, і своеасаблівы этнаграфічны і прыродны запаведнік, і, нарэшце, проста водны шлях, што злучае тры краіны. На байдарцы можна прапльць па ім з Польшчы ў Літву праз Беларусь. Дык чаму ж няма турыстычных аўтобусаў на плошчах нашага старажытнага горада нават у выхадныя дні, чаму не шпацыруюць іх пасажыры ў суправаджэнні экскурсаводаў па вузкіх вулачках Гродна?

Дзейнасць 16-ці гарадзенскіх турфірмаў заключаецца, у асноўным, у продажы пуцёвак нашым грамадзянам, якія жадаюць адпачыць у іншых краінах. Практычна ніводная з гэтых турфірмаў не прываблівае турыстаў звонку. Прычынаў тут некалькі. Адсутнасць рэкламы (на Захадзе для многіх Беларусь - белая пляма), неразвітасць турысцкай інфраструктуры, г.зн. камфартабельных умоваў пражывання і адпачынку на маршрутах. Але галоўная прычына - нявыгаднасць, а дакладней, стратнасць гэтага роду дзейнасці для турфірмаў з-за высокіх падаткаў. І ўсё-ткі, лічыць Святлана Яўгенаўна, нават пры сённяшнім стане справаў у турбізнесе, трэба займацца і ўязным турызмам.

Чакаць будаўніцтва камфартабельных гатэляў на турыстычных маршрутах Беларусі можна яшчэ не адзін дзесятак гадоў. Ды і не відаць нешта інвестараў, якія захочуць укласці ў гэтую справу свае грошы. Затое моладзевы і мемарыяльны - гэтыя два віды турызму - маглі б і зараз развівацца і даваць прыбытак. Першы - таму, што студэнты і старшакласнікі не надта патрабавальныя да камфорту, але пры гэтым цікаўныя. Відавочна, што яны складуць асноўны кантынгент аматараў воднага турызму. Мемарыяльны турызм - гэта наведванне тых мясцінаў, куды людзі едуць, каб ушанаваць памяць, схіліць галовы. Уласна кажучы, мемарыяльны турызм існуе ў нас і зараз, але ў дзікунскім выглядзе. Людзі наведваюць мясціны Адама Міцкевіча, Элізы Ажэшкі, Стэфана Баторыя, храмы, могілкі. Групы прыязджаюць са сваімі экскурсаводамі, што знаёмыя з мясцовай гісторыяй павярхоўна.

Усе гэтыя і шмат іншых праблемаў беларускага турбізнесу дзеячы, якія маюць да яго дачыненне, будуць абмяркоўваць на II Рэспубліканскім семінары, што будзе праходзіць 15-18 лістапада ў Гродне. У яго праграме прадугледжаны «круглы стол» па праблемах інфармацыйнай падтрымкі, у якім возьмуць удзел фотаклубы, рэкламныя агенцтвы і СМІ.

**Ніна Палуцкая**

# Іншасвет праз фотааб'ектыў

**У галерэі «У Майстра» адкрылася выстава фотамастака Юрыя Палуцкага пад назвай «Прыадкрыццё сябе».**

Гэта першая персальная выстава гарадзенскага фотааматара ўяўляе сабою творчы вынік сёлетняга міжнароднага фотапленэру «Артэко», арганізаванага сумесна польскімі і беларускімі фотаклубамі.

Паколькі ўвагу арганізатараў «Артэко» прыцягваюць праблемы экалогіі ды аховы помнікаў архітэктуры, то і галоўнымі тэмамі работаў Юрыя Палуцкага сталі прырода, вада, архітэктура. Вада і яе жыхары, магчыма, цікавяць мастака з прафесійнага пункту гледжання, бо ён нейкі час працаваў іхтыёлагам. Здымкі ж архітэктурных помнікаў рабіліся ў Гродне, Наваградку, Нясвіжы, мястэчках Келецкага ваяводства (Польшча).

Фотаработы Юрыя выклікаюць інтарэс і з таго пункту погляду, што гэта - «чыстая фатаграфія», без аніякай тэхнічнай апрацоўкі. Тое, што бачна, так бы мовіць, няўзброенным вокам і што ёсць у прыродзе на дадзены момант - адлюстравана на фотаздымку. У гэты тэзіс ля некаторых здымкаў верыцца з цяжкасцю, надта ўжо незвычайныя колеры і святлацені іграюць на іх.

З формай аўтар і наогул абыходзіцца смела, павялічвае і вылучае міні-элементы ў свеце раслінаў - і яны пачынаюць жыць сваім жыццём. Групіруе вялікія формы архітэктуры - і манументальныя абрысы дзіўным чынам змяняюцца да памераў замочнай шчыліны.

«Мая выстава звязана з маёй асобай, - гаворыць Юрый Палуцкі. Вы глядзіце на мае фотаздымкі - значыць глядзіце на свет маімі вачыма...».

**Ганна Макоўская**

**На здымку: падчас адкрыцця фотавыставы Юрыя Палуцкага (крайні справа)**



# Ды-джэі з выканкама

**Падчас кастрычніцкай прэс-канферэнцыі «У полі зроку - непаўналетнія» супрацоўнікі службаў аховы правапарадку прызналі, што злачыннасць сярод непаўналетніх застаецца на ранейшым узроўні.**

Так, на 5 кастрычніка дзецьмі і падлеткамі ўжо было ўчынена 601 злачынства і паўтары тысячы правапарушэнняў па Гарадзенскай вобласці. Гэта на ўзроўні мінулага года. Асабліва насцярожвае рост крымінальнай сітуацыі ў Лідзе, на Слонімшчыне, Ваўкавышчыне, у горадзе Гродна. Уладзімір Куратчык, адказны сакратар камісіі па справах непаўналетніх, звярнуў асаблівую ўвагу на рост п'янства - кожны чацвёрты ўчыніў злачынства ў стане ап'янення, 50 працэнтаў усіх правапарушэнняў - ізноў жа п'янства. На ўліку ў камісіях па справах непаўналетніх вобласці стаіць амаль 2000 падлеткаў.

Прычынамі складанага крымінальнага становішча сярод дзяцей і моладзі былі названыя дэградацыя сям'і, злыя гены і эканамічны крызіс. Ян Казак, старшы ўпаўнаважаны па асабліва важных справах упраўлення УУС, шчыра прызнаў, што «якое грамадства - такая і моладзь».

Да традыцыйных мераў барацьбы са злачыннасцю малалетніх прылічваюцца штрафы - як з бацькоў, так і з недарасткаў. Апрача таго, школы ды іншыя навучальныя ўстановы абавязаныя праводзіць па дзве дыскатэкі ў выхадныя і святочныя дні для арганізацыі культурнага адпачынку моладзі. Вельмі ўзрушылу супрацоўнікаў камісіяў па справах непаўналетніх падчас нядаўніх рэйдаў па гарадскіх дыскатэках той факт, што хлопцы і нават дзяўчаты 16-18 гадоў не саромеюцца купіць і піць піва. Больш таго. Дыскжакеі, напрыклад, у «Гродне» падаліся камісіі непрафесійнымі, а дыскатэка - неарганізаванай і нетэматычнай. Уладзімір Куратчык з гэтай нагоды зазначыў, што начальніцы ўпраўлення культуры аблвыканкама Л.Кадзевіч прапанавана арганізаваць курсы «павышэння кваліфікацыі» для дыск-жакееў.

Альтэрнатыўны погляд на праблему і шляхі яе вырашэння прапанавалі нетрадыцыйныя ўдзельнікі прэс-канферэнцыі. Каардынатар праекту ЮНІСЕФ «Глабальны рух у інтарэсах дзяцей» Віталь Ніканóвіч прывёў з сабой юных турыстаў, харцэраў, эколагаў, БСМаўцаў. Яны прэзентавалі свой, пазітыўны і самастойны, падыход да ўласных праблемаў, гатоўнасць змагацца са СНІДам, п'янствам, злачыннасцю, а таксама за свае правы.

**Алена Сіневіч**

